# наша свабода

№13(100) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

2 ЛЮТАГА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## Кудзінаў выходзіць на волю

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Паводле звестак з Барысаўскага раённага суда, ужо 5 лютага, у наступны панядзелак, дэпутат Уладзімір Кудзінаў выйдзе на волю. Учора старшыня суда Сяргей Мікуліч разам з назіраючым пракурорам перагледзелі справу Кудзінава і прывялі ранейшы прысуд у адпаведнасць з новым Крымінальным кодэксам. Уладзімір Кудзінаў атрымаў замест ранейшых 7 гадоў – 5. Такім чынам, улічваючы год амністыі, цяпер дэпутат пасля доўгіх гадоў турмы павінен выйсці на волю.

Жонка Кудзінава Зоя кажа, што «суддзя Сяргей Мікуліч паведаміў мне, што справа сёння была перагледжаная ўжо а 9-ай раніцы! Вось гэта хуткасць, нават адвакат ім не спатрэбіўся. Яшчэ сказаў, што Валодзю выпусцяць ужо ў панядзелак, і прасіў, каб журналісты яго больш не турбавалі».

Чакаць Уладзіміра Кудзінава на выхадзе з турмы ў наступны панядзелак сваякі і сябры дэпутата збіраюцца з самай раніцы. ■



Прыгожа выглядаюць нашыя гарады і мястэчкі з вышыні птушынага палёту. Бо нябачна людзей, якія жывуць за рысай беднасці

Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ шчыра ўдзячная сваім чытачам за віншаванні і добрыя зычанні з нагоды выхаду юбілейнага 100-га нумара газеты, і наогул усім, хто разам з намі.

## Улады баяцца негвалтоўнай барацьбы

### Семінар прыхільнікаў ненасілля раз'юшыў урадавых каршуноў

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Як вядома, адзін чых на Карла Маркса, 38 нараджае эпідэмію інфлюэнцы ва ўладных калідорах, а рэдакцыю «саліднага выдання» «Советская Белоруссия» проста прымушае біцца ў эпілептычных карчах.

Скандал вакол прайшоўшага ў Вільнюсе семінара «Негвалтоўная барацьба за дэмакратыю і дэмакратычныя працэсы ў Беларусі», у якім бралі ўдзел 40 сябраў практычна ўсіх апазіцыйных партыяў, а таксама Вярхоўнага савета 13-га склікання, раздзьмухваўся дзяржаўнымі СМІ як толькі можна.

Прыклала да гэтага сваю руку і міністэрства замежных справаў Беларусі: спачатку беларуская амбасада ў Літве накіравала пратэст літоўскім уладам з прычыны правядзення семінару, потым амбасадар Літвы ў Беларусі Ёнас Паслаўскас быў выкліканы ў МЗС, дзе яму давodзілі пра «заклапочанасць» беларускага знешнепалітычнага ведамства фактам правядзення семінару.

Потым свае важкае слова сказала мытня, затрымаўшы на станцыі Гудагай 29 студзеня намесніка старшыні ВС Генадзя Цярэню і канфіскаваўшы ў яго відэакамеру *Sony* і матэрыялы семінару.

І, нарэшце, «пульнула» ананімны матэрыял на палову першай паласы афіцыёзная «Советская Б». Падзагаловак аршыннымі літарамі крычаў: «Беспрецедентно! В столице соседнего государства открыто готовят «борцов» с законной властью Беларуси. Куда смотрит ОБСЕ?», а ў тэксце артыкула праводзіліся прамыя паралелі з падрыхтоўкай гітлераўскімі СД-шнікамі дыверсантаў і тэрарыстаў для дзейнасці на тэрыторыі СССР. На думку аўтара матэрыяла, у Вільнюсе выпрацоўвалася стратэгія сілавых акцыяў, якія прывядуць «к столкновениям, чреватым в итоге гражданской войной».

Па нашых звестках, размовы пра сутыкненні на семінары не вялося. Наадварот, сама ягоная ідэя — «негвалтоўная барацьба» – выключае прымяненне сілы.

Але нават такі – вельмі цывілізаваны — від барацьбы выклікаў вялікую паніку ў вядомым будынку праз дарогу ад Купалаўскага тэатра. І спатрабавалася тэрмінова абліць брудам усіх, хто збіраецца супрацьстаяць А.Лукашэнку на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах.

Дык пра што ж вялася гаворка на шырока разрэкламаваным семінары? Як паведаміў нам адзін з яго ўдзельнікаў, старшыня выканкама Аб'яднанай грамадзянскай партыі Яўген Лабановіч, семінар «Негвалтоўная барацьба за дэмакратыю і дэмакратычныя працэсы ў Беларусі» праводзіўся ў Вільнюсе па ініцыятыве незалежнага грамадскага аб'яднання Фонд падтрымкі абароны грамадзянаў.

На працягу шасці дзён адзін з кіраўнікоў амерыканскага інстытута імя Альберта Эйнштэйна прафесар Джын Шарп навучаў прадстаўнікоў Беларусі, як аказваць мірны супраціў дзеянням аўтарытарнага рэжыму.

Па словах Я.Лабановіча, прафесар Дж.Шарп на працягу больш чым 30 гадоў вядомы як тэарэтык негвалтоўнага супраціўлення. Ён кансультаваў па метадыцы барацьбы апазіцыю Бірмы, Тыбету і іншых краінаў.

Метады, спосабы, стратэгіі негвалтоўнага супраціўлення вывучаліся на прыкладах Махатмы Гандзі, дзейнасці рухаў Супраціўлення ў Паўднёвай Афрыцы, у Чылі і г.д.

«Любыя спробы прадставіць наш візіт у Літву як навучанне нейкіх там тэрарыстаў гвалтоўным метадам барацьбы – гэта проста хлусня, бо ў страха вочы вялікія,» – гаворыць Яўген Лабановіч.

Удзельнікі семінару глядзелі фільмы пра негвалтоўную барацьбу дэмакратычных рухаў Чылі з дыктатурай Аўгуста Піначэта. Там людзі пратэставалі і ішлі бяззбройныя на ўзброеных паліцыянтаў, сядалі на зямлю. Нягледзячы на тое, што іх збівалі, расцягвалі, кідалі ў машыну, яны не супраціўляліся, і гэта схіляла грамадскую думку на іхні бок. Дзякуючы гэтым акцыям, калі ў 1987 годзе ў Чылі быў наладжаны рэферэндум аб працягненні паўнамоцтваў А.Піначэта, то дэмакратам ўдалося сабраць большасць галасоў супраць прэзідэнцтва дыктатара. Натуральна, што ніякага гвалту з боку апазіцыі пры гэтым учынена не было.

Джын Шарп выпрацаваў 198 метадыкаў негвалтоўнай барацьбы з недэмакратычнымі рэжымамі. Натуральна, што не кожны з іх падыходзіць для беларускай сітуацыі. Але некаторыя з іх беларускія партыйныя лідэры збіраюцца прымяняць на практыцы.

Істэрыю афіцыёза на радзіме вакол семінару Яўген Лабановіч адкаментаваў так: «Я, шчыра кажучы, спачатку вельмі здзівіўся, але потым зразумеў, што ад нашай улады нічога іншага не варта было і чакаць. Яны былі б вельмі ўзрадаваныя, калі б беларуская апазіцыя скацілася б да гвалту, але я ўпэўнены, што такога не адбудзецца».

Дарэчы, беларуская дэлегацыя ўвесь час знаходзілася пад кантролем спецслужбаў. Па словах Я.Лабановіча, разам з групай у гатэлі жылі беларускія «бізнесоўцы», пра сапраўдную прафесію якіх няцяжка было здагадацца. Ад самага пачатку разам з апазіцыянерамі пасяліліся тры чалавекі «ў цывільным», потым на змену ім прыехалі іншыя тры. Дарэчы, у прыватных размовах, як кажа Я.Лабановіч, «бізнесоўцы» не хавалі сваёй прыналежнасці да спецслужбаў. Апроч таго, і прыезд, і ад'езд беларускай дэлегацыі былі знятыя імі на відэастужку. ■

## НАВІНЫ

■ **У 2000 годзе Камітэтам па фінансавых расследаваннях было выяўлена 16.753 выпадкі парушэння падатковага заканадаўства.** Адкрыта больш за 3 тысячы крымінальных справаў. Па ўжо завершаных справах страты дзяржавы склалі каля 900 мільёнаў рублёў. Штрафаў за падатковыя парушэнні было спагнана 375 мільёнаў рублёў.

■ **Нацбанк адклікаў у банка «БелБалтыя» агульную ліцэнзію на ажыццяўленне банкаўскіх аперацыяў.** Гэтаксама была адкліканая і генеральная ліцэнзія на права здзяйснення валютных аперацыяў. Нагадаем, што звыш 10 тысячаў кліентаў гэтага банка згубілі свае ўклады.

■ **У Гродне створаны бацькоўскі камітэт, які вымагае больш чыннага расследавання леташняга серыйнага забойства дзяўчат.** Вінаватых міліцыя не знайшла. Бацькі ахвяраў неаднаразова звярталіся ў міністэрства ўнутраных справаў і пракуратуру, у тым ліку з абурэннямі на тое, што крымінальная справа заведзеная па артыкуле «давядзенне да самагубства».

■ **На віцебскім тэлевізійным заводзе «Віцязь» – звальненні.** У звязку з пераходам на выпуск сучасных мадэляў тэлевізараў сталі незапатрабаванымі і пад скарачэнне падпалі блізу 200 работнікаў.

■ **У Магілёве з 31 студзеня абвешчаная эпідэмія грыпу.** Апошнія 3 дні колькасць захворванняў пераўзыходзіла эпідэмічны парог больш як утрая. Раней эпідэмія грыпу была абвешчаная ў Гомелі і Кобрыне. Мяркуецца, што днямі яна будзе абвешчаная ў Брэсце і Мінску.

■ **Паводле прагнозаў Цэнтрвыбаркама, у прэзідэнцкіх выбарах возьмуць удзел не больш за 15 кандыдатаў.** Яго старшыня Лідзія Ярмошына кажа, што маецца рахунак, які прадугледжвае выдаткі на якраз такую межавую колькасць кандыдатаў на прэзідэнцкую пасаду.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1230

# С кем вы, мастера макулатуры?

**Александр ДУБРАВИН**

Добив белорусскую национальную культуру до ручки, выжив из страны ее лучших представителей, задушив все живое и неподконтрольное, затоптав белорусский язык — носитель национальной культуры, разбазарив народные деньги на «базары» и безумные московские «высокохудожественные» проекты, Лукашенко теперь обеими руками взялся за функционеров и ответработников этой самой незаметной у нас и на ладан дышащей отрасли его личного народного хозяйства. Шесть лет не вспоминал о них, и вот, наконец, пришла очередь, приспичило: на носу президентские выборы, нужен новый громкий многоголосый «одобрям-с» его болезненному желанию всем в стране руководить и ни за что не отвечать. Публика – дура. Нужно открыть ей новые, небывалые горизонты. И вместо попытки решить хоть какие-нибудь конкретные проблемы страны, вызванные к жизни, кстати, исключительно его неописуемой деятельностью, Лукашенко предпочитает всенародно мечтать. Он опять фонтанирует картинами будущего. Опять обещает, выдувая радужные пузыри. Обещает и сам в это верит, сладко, задушевно замирая. Далеко позади, во мраке прошлого остались запущенные заводы, пропавшие люди и их безутешные родственники, окровавленные демонстранты, голодающие дети, пенсионеры на помойках, ручки от чемоданов с компроматом, обещанные народу холодильники и телевизоры. Впереди – сияние небес. Там, вдалеке, не так заметно убожество того, во что превратилась Беларусь за шесть лет его президентства. Там, в третьем тысячелетии, все ровно, гладко, красиво и художественно: он говорит, говорит, говорит... Ни о чем. А его все слушают, слушают, слушают... С благоговением.

Давайте и мы заглянем в его разноцветный мыльный пузырь, посвященный культуре. Там, в видениях, в далеком третьем тысячелетии, он все еще глава государства и ему внимают с благодарностью. Там, в третьем тысячелетии, подтверждается вечность его постулатов, правильность его поступков. Все во имя будущего! Именно так, как пишет об этом одна придворная газета: **«Глава государства пообещал, что государственная политика по поддержке культурных процессов не изменится и в новом тысячелетии».** Да, печальное видение. Ему нравится, нам – нет. Выходит, и в третьем тысячелетии библиотекари будут получать в месяц по двадцать долларов, в кинотеатрах будет холодно, литдрама телевидения будет показывать шовинистические бредни дегенератов, белорусским детям нельзя будет получить образование на родном языке, на «Беларусьфильме» будут снимать «Любить по-русски туда-сюда», государство будет устраивать грандиозные пьянки под видом проведения всенародных праздников, деятелям культуры будут проламывать головы в темных подворотнях, книжные магазины будут заполнены макулатурой соседнего государства, белорусские театры будут бедствовать, творческие союзы продолжат пресмыкаться, история страны будет перевираться, памятники истории разрушаться и т.д. Это значит, что и в третьем тысячелетии белорусским писателям не отдадут захваченный у них Дом литератора. Это значит, что работники культуры и в третьем тысячелетии должны будут за подачки активно сотрудничать с режимом, угождать ему и, вероятно, воспевать в своих творениях. Есть уже песня композитора Ханка, есть уже высокомалохудожественные масляные и акварельные картины, есть уже правдивая биографическая книга о неистовом президенте, есть вытканный ковер с его изображением, расположенным выше изображения Христа. Очередь за оперой «Жизнь за узурпатора»? Очевидно, что это задача для таланливого пуховичского комсомольского композитора, вышедшего из недр самодеятельности, Игоря Лученка. Недаром он ребром ставит вопрос в главной придворной газете об оплате за оперы: мол, оперы идут нынче дешевле варьете. А это – нехорошо. Варьете, дескать, про узурпатора в Гранд Опера или Ля Скала не поставишь. Надо лепить полнометражную оперу. Кстати, исполнит ее оркестр маэстро Финберга: его ребята здорово натренировались на музыкальных паузах в развлекательной передаче «Угадай мелодию». А вот и слонимский скульптор Иван Мисько приглядывается к облику великого человека, мысленно ваяя его то в бронзе, то в камне, то в гипсе. Дерево, подскажем ему, только дерево. Липа. Вот материал, достойный мечты. Кинорежиссер Михаил Пташук в свою очередь обдумывает прямо в зале свой новый кинопроект под названием «Витовт», где главный герой ленты станет предтечей величайшего интегратора всех времен и народов, прямо с экрана передаст ему символическую эстафету: дескать, и я тоже, как и ты, мечтал всю жизнь жить на казенной даче под Москвой. А за спиной этих современных могучих творцов уже толпятся десятки других желающих внести свой вклад в эпопею верного служения. Это люди меньшего калибра, но гораздо большей преданности...

Нет причин, по которым единение Лукашенко с ответработниками от культуры накануне выборов может не состояться. Разве что враги. Как пишет придворная газета: **«Александр Лукашенко обратился с просьбой к деятелям культуры не поддаваться на провокации тех, кто с помощью искусства пытается решать свои мелкие, амбициозные проблемы».** Дескать, с кем же вы, мои мастера макулатуры? Ау! Ответьте через голубой экран! Проявитесь!

В свою очередь настоящие деятели культуры, никак не связанные с нынешней суетой и предвыборными заседалищами, которые, в отличие от мастеров макулатуры, не решают свои «мелкие амбициозные проблемы» с помощью искусства, а в полной тишине создают обыкновенные художественные произведения, отвечают Александру Лукашенко через нашу газету: не бери до головы, все равно второй раз не выберут. Народ у нас такой. Обещать обещают, деньги возьмут, а голосовать все равно не будут. Хоть ты каждому почетную грамоту дай и посули пост министра. А кому, прикинь, хочется слушать такие ужасы о третьем тысячелетии? ■

**ЗАМЕЖЖА**

## Чечня. Зверства военнослужащих

Вечером 28 января в карьере для добычи гравия около села Новые Атаги были обнаружены трупы 25-летнего Аслана Хасарова и 27-летнего Ахмеда Заурбекова, ранее задержанных российскими военнослужащими в ходе «зачистки» в селе Старые Атаги.

Молодые люди были арестованы 14 января, когда они возвращались от родственников к себе домой в Старые Атаги. Родственники искали молодых людей в местах дислокации воинских частей, в изоляторах временного содержания при временных отделах внутренних дел. Военные, служащие на главной российской базе в Ханкале, сообщили родственникам Аслана Хасарова и Ахмеда Заурбекова, что они живы, и обещали отпустить их за денежное вознаграждение.

Тела Аслана Хасарова и Ахмеда Заурбекова изуродованы. Согласно сообщению родственников, у обоих выдернуты из пальцев рук ногти и отрезаны уши, а головы прострелены в нескольких местах. У Ахмеда Заурбекова скальпирована правая щека до черепа. Она была срезана острым предметом, предположительно ножом. Руки убитых были связаны за спиной.

Во время «зачистки» в Старых Атагах около 13 человек — ранены. ■

ПРИМА

## Польшча мае намер скараціць войска



Польскі ўрад ухваліў праграму мадэрнізацыі арміі. Згодна з гэтай праграмай, да 2006 года трэцяя частка ўзброеных сілаў Польшчы павінна цалкам адпавядаць стандартам *NATO*.

Па словах польскага прэм'ер-міністра Ежы Бузека, гэта ў першую чаргу датычыць узбраенняў і сродкаў сувязі, што дазволіць Польшчы эфектыўна супрацоўнічаць з хаўруснікамі па Паўночнаатлантычным альянсе, куды яна прынятая ў 1999 годзе. Агульны кошт праграмы мадэрнізацыі ацэньваецца ў 1,5 млрд. долараў. Гэтыя немалыя грошы на рэформу польскае міністэрства абароны разлічвае атрымаць дзякуючы скарачэнню асабовага складу ўзброеных сілаў з 200 да 150 тысяч вайскоўцаў на працягу 5 гадоў, а таксама ад продажу вызваленай ваеннай тэхнікі, абсталявання і зямлі, на якой месцяцца ваенныя аб'екты, якія будуць ліквідаваныя. Па папярэдніх разліках міністэрства абароны Польшчы, у выніку гэтых дзеянняў сярэднія штогадовыя выдаткі на аднаго жаўнера павінны праз пяць гадоў павялічыцца з 17 тысяч долараў да 30 тысяч, гэта значыць – да 2,5 тысяч долараў штомесяц. ■

# Тэры Дэвіс: «Мы будуем узаемаадносіны з Беларуссю»

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

Як мы ўжо паведамлялі, у пачатку сакавіка ў Беларусь зноў прыязджае еўрапейская «тройка». У яе склад будуць уваходзіць прадстаўнікі Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, Еўрапарламента і АБСЕ.

Мы звязаліся з адным з чальцоў дэлегацыі, брытанскім парламентарыем Тэры Дэвісам, які прадстаўляе ПАСЕ.

***— Якія асноўныя мэты вашага візіту ў сакавіку?***

— Парламенцкая Асамблея Савета Еўропы выступіла з ініцыятывай гэтага візіту, і мы звярнуліся да Еўрапарламента і АБСЕ, каб прадстаўнікі абедзвюх арганізацыяў таксама ўвайшлі ў дэлегацыю.

Мы не лічым, што Беларусь мусіць быць ізаляваная ад іншых краінаў, і таму мы працягваем знаёмства з гэтай краінай. Нас цікавяць тыя падзеі, што адбываюцца ў вас, і мы хочам весці дыялог – як з апазіцыяй, так і з урадам.

Наша галоўная задача – прааналізаваць тыя змяненні, што адбыліся ў Беларусі з часу нашага апошняга візіту ў жніўні мінулага года. Каб лепш уяўляць сабе сітуацыю, мы збіраемся правесці шмат размоваў з самымі рознымі людзьмі – з апазіцыяй, з урадам, а таксама з тымі, хто не прадстаўляе ні апазіцыю, ні ўрад.

Па выніках нашага візіту не будзе прынята ніякіх рашэнняў, ніякіх рэзалюцыяў. Мы проста будуем узаемаадносіны з Беларуссю – з яе людзьмі.

***— Як вы ацэньваеце сітуацыю ў Беларусі пасля восеньскіх выбараў у «парламент»? Ці змянілася нешта ў вашым стаўленні да Беларусі пасля гэтых выбараў?***

— Як дэпутат Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы я ведаю, што робіцца ў Беларусі. Выбары не змянілі майго стаўлення да вашай краіны. Мы не лічым іх сапраўднымі, бо яны прайшлі ў кепскіх умовах.

Мяне — як і шмат людзей у нашых краінах — вельмі хвалюе сітуацыя з свабодай слова ў Беларусі, свабодай сродкаў масавай інфармацыі. Таму я незадаволены тымі ўмовамі, у якіх летась праходзілі выбары. Канешне, былі і іншыя праблемы, але яны не такія важкія, як адсутнасць свабоды прэсы.

***— Маё наступнае пытанне да вас як да чальца Савета Еўропы. На апошняй сесіі ПАСЕ, што адбылася ў студзені, паўнамоцтвы расійскай дэлегацыі былі цалкам адноўленыя. Але Расія так і не вырашыла свае праблемы, з-за якіх яна была пазбаўленая права голасу – тая ж Чачня, напрыклад...***

— Я распавяду вам, як усё было. У красавіку мінулага года ў ПАСЕ з'явілася новая дэлегацыя ад расійскай Думы. Для таго, каб яна пачала працу, неабходна было пацвердзіць яе паўнамоцтвы. Такія правілы для любой дэлегацыі з любой краіны, дзе пераабіраўся парламент.

Але паўнамоцтвы расійскай дэлегацыі былі аспрэчаныя партыяй хрысціянскіх дэмакратаў. У рэшце рэшт расійская дэлегацыя была дапушчаная да ўдзелу ў сесіі ПАСЕ, але з агаворкай: дэлегацыя можа браць удзел у працы сесіі, але яна не мае права голасу. Такім чынам, расійскую дэлегацыю не выключылі з ПАСЕ, але толькі абмежавалі яе паўнамоцтвы – менавіта з-за той сітуацыі, што склалася ў Чачэнскай рэспубліцы.

У студзені кожнага года, паводле правілаў ПАСЕ, мусяць быць пацверджаныя паўнамоцтвы ўсіх дэлегацыяў. І зноў былі аспрэчаныя паўнамоцтвы расійскай дэлегацыі. Але гэтым разам яны былі пацверджаныя без усялякіх абмежаванняў.

Расійскую дэлегацыю ніхто не выключаў з Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. Зрэшты, яны самі сябе выключылі – таму што адмовіліся браць удзел у сесіі ПАСЕ.

Я асабіста лічу, што прадстаўнікі Расіі мусяць прысутнічаць у ПАСЕ – бо яны прадстаўляюць расійскую Думу, а не расійскі ўрад.

Я стаўлюся вельмі крытычна – калі не сказаць горш – да таго, што робіць расійскі ўрад у Чачні. Але я раблю падзел паміж расійскім урадам – прэзідэнтам Пуціным, спадаром Івановым і іншымі – і расійскай Думай. Шмат сябраў расійскай Думы крытыкавалі дзеянні ўрада ў Чачні. І я лічу, што было б памылковым караць Думу, калі неабходна караць расійскі ўрад. І з гэтым згодныя большасць сябраў ПАСЕ.

***— А як наконт Беларусі? На вашу думку, ці мусіць беларуская дэлегацыя прысутнічаць на сесіі ПАСЕ? І калі так, то якая дэлегацыя: ад новаабранага Нацыянальнага сходу або Вярхоўнага савета 13-га скліканця?***

— Але ж новы парламент не прызнаецца на міжнародным узроўні па прычыне недэмакратычных умоваў, у якіх ён абіраўся. Таму, відавочна, ім ніяк нельга выдзяляць месца ў Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. Канешне, мы не патрабуем, каб выбары праходзілі ў ідэальных умовах, але гэтыя ўмовы мусяць быць куды лепшымі.

Вярхоўны Савет прызнаецца на міжнародным узроўні як легітымны парламент Беларусі. Але калі я ў жніўні быў у Беларусі, то спытаўся ў спадара Лябедзькі: ці сапраўды ваш новы Выбарчы кодэкс лепшы за той, па якім абіраўся Вярхоўны Савет 13-га склікання. І ён мне гэта пацвердзіў.

Таму для мяне галоўным з'яўляецца не Выбарчы кодэкс, а сітуацыя з свабодай прэсы. Гэта самае важнае – каб людзі мелі свабодны доступ да СМІ. Таму што на выніку выбараў найбольш уплывае тое, што людзі чуюць, бачаць і чытаюць раней. І не толькі за два-тры тыдні да пачатку выбараў, але за два-тры гады.

***— Мы ведаем, што нядаўна вы стварылі парламенцкую групу «Беларусь» у брытанскім парламенце. Ці можаце вы нам нешта паведаміць пра гэтую групу?***

— У гэтую групу ўваходзяць больш за 20 чальцоў парламента з усіх палітычных партыяў. Гэта людзі, што зацікаўленыя ў развіцці Беларусі. Мы – сябры Беларусі і беларускага народа. Мы не збіраемся займацца палітыкай у Беларусі. Мы не маем дачынення ні да прэзідэнцкай адміністрацыі, ні да апазіцыі. Нас цікавіць дыялог з усімі.

***— Што група «Беларусь» плануе рабіць?***

— Мы збіраемся размаўляць з людзьмі ў Беларусі і абмяркоўваць з імі сітуацыю ў вашай краіне. Не толькі палітычную сітуацыю. Эканоміка нас цікавіць таксама, але і культура Беларусі нас цікавіць не менш. ■



**Даведка**

**Тэры Дэвісу 63 гады, 25 з якіх ён прадстаўляе Лейбарысцкую партыю ў брытанскім парламенце. Адначасова Тэры Дэвіс з'яўляецца дэпутатам ад Вялікабрытаніі ў Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы, дзе ачольвае Палітычны камітэт.**

## Кожны ў люстэрку даносаў

Нарэшце палякі атрымалі магчымасць азнаёміцца са сваімі асабістымі справамі, якія вялі на іх спецслужбы ў гады перамогшага сацыялізму. Першым чалавекам, які атрымаў гэтыя дакументы, стаў міністр замежных справаў Польшчы Уладзіслаў Барташэўскі. «Я маю права ведаць няхай нават і самую горкую праўду», — сказаў ён і паведаміў, што змест папкі выклікаў у яго эмацыянальны шок. З дакументаў міністр, у прыватнасці, даведаўся імёны тых, хто даносіў на яго спецслужбам. Барташэўскі пабяцаў, што атрыманая інфармацыя будзе скарыстаная ім ў кнізе, якую ён зараз піша.

У 1940-1941 гадах Барташэўскі быў вязнем фашысцкага канцлагера, пазней удзельнічаў у варшаўскім паўстанні. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ён пераследаваўся камуністычным рэжымам Польшчы. Беспадстаўна абвінавачаны ў шпіянажы, Барташэўскі восем гадоў правёў у зняволенні. Паўторна ён быў зняволены ў 1981 годзе, калі маршал Ярузельскі пад ціскам савецкага кіраўніцтва абвясціў у краіне ваеннае становішча.

Звесткі, сабраныя на польскіх грамадзянаў у «сацыялістычныя» гады, перададзеныя створанаму год назад Інстытуту нацыянальнай памяці. Яго кіраўнік Леон Керас паведаміў, што з другой паловы бягучага года кожны паляк зможа азнаёміцца з сабранымі на яго матэрыяламі. Выключэнне складуць толькі тыя дакументы, у якіх фігуруюць імёны асабліва сакрэтных агентаў. ■

Інтэрфакс

## Таямнічыя кардыналы

Праз тры тыдні, 21 лютага, папа Іаан Павел II назаве імёны двух кардыналаў, прызначаных ім яшчэ на мінулай кансісторыі 1998 года «*in pectore*», гэта значыць таямніча, каб не нашкодзіць гэтым выбраннікам. Пэўныя колы мяркуюць, што сярод іх ёсць кітаец, іншыя спадзяюцца пачуць імя палестынца, але не варта здзіўляцца, калі яшчэ адным «князем касцёла» аб'явіцца біскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які зараз ёсць біскупам у Маскве. Прыгадаем, што перад прызначэннем у расійскую сталіцу Тадэвуш Кандрусевіч быў біскупам у Гродне. Дакладныя імёны «таямнічых кардыналаў» ведае сёння толькі Іаан Павел II, і да раскрыцця тайны засталося чакаць нядоўга. ■

## Папу рымскага запрашае Тайвань

**Пятрусь КЛІМКОВІЧ**

Вялікі аўтарытэт папы рымскага Паўла Іаана надае гонар краінам, якія ён наведвае з візітамі. Два дні таму папа атрымаў запрашэнне ад прэзідэнта Тайваня Чэнь Шуйбяня. Кардынал Ян Пітэр Чэн, які знаходзіўся ў Тайвані і прымаў гэтае запрашэнне для перадачы галаве каталіцкай царквы, выказаў спадзяванні, што сувязі Ватыкана і Тайваня будуць умацоўвацца ў сферы правоў чалавека і рэлігійных свабодаў. Каталіцкія парафіі Тайваня налічваюць каля 300 тысяч чалавек. Касцёл патраніруе тут 50 школаў і 15 шпіталяў.

Для параўнання варта зазначыць, што ў Беларусі парафіі каталіцкай царквы налічваюць 1,5 мільёна вернікаў, але беларускі прэзідэнт не наважваецца запрасіць у Беларусь папу рымскага з візітам. ■

# Провинциальный пейзаж

**Юрий ВОРОНЕЖЦЕВ,**
**исполнительный директор Гомельского отделения ОО «Фонд им. Льва Сапеги».**

**Политическая жизнь в столице и провинции, разумеется, должна различаться по определению. И она отличается. Хоть столица нашей страны тоже весьма провинциальный город, но все же умных людей там несколько больше, чем в Гомеле. И потому, что город крупнее, и потому, что большинство умных людей стремится жить поближе к возможностям, которые дает столица. Даже такая, как наша.**

Провинциальная политика живет своей особой жизнью, которая не всегда понятна столичным людям, занимающимся сегодня «большой» политикой в масштабах страны. Хотя у людей, имеющих опыт и понятие о подобном процессе, эти занятия зачастую кроме горькой усмешки ничего не вызывают.

На примере Гомеля и области разница между «большой» и региональной политикой, возможно, видна наиболее четко.

«Большая политика» предполагает существование солидных партий с солидным влиянием на «электоральные массы». Партии в Беларуси существуют и, наверное, даже влияют. Но не в провинции. По крайней мере, в нашей восточно-белорусской области. Можно согласиться с выводами самых разных социологических опросов: партиям у нас не доверяют. Более того, партий у нас не знают. Кроме коммунистической и БНФ.

Вся демократическая деятельность в нашей провинции держится не на политических организациях, а на авторитете и активности отдельных людей, имеющих определенную известность в регионе. Разумеется, влияние на часть населения формально исходит от организаций, которыми они руководят. Но эти организации как раз в большинстве случаев называют не титульным именем, а по фамилиям людей, их представляющих. То есть – не «Гомельская ассоциация упорной борьбы за общую демократизацию всей страны и защиты полной ее независимости от алчного соседа», а «Контора Васи Родимцева». На митинг гомельчанин вряд ли пойдет по призыву «Ассоциации», но от личного приглашения «Васи» может не отказаться. И ничего здесь не поделаешь. Так уж сложилось исторически с учетом чернобыльских мутаций населения и его местных политиков.

А партии в Гомеле, наверное, представлены все, хотя невооруженным взглядом заметны лишь единицы.

С коммунистами в Гомеле все в порядке. Действительно, существуют структуры обеих коммунистических партий и люди в них. О собраниях, конференциях, возложениях венков и иных партийных акциях регулярно сообщается в местных государственных СМИ. Но как и везде, уровень зависимости партийных людей от местной и минской власти настолько высок, что говорить о самостоятельной политике коммунистов не приходится. Скорее, эти формирования можно назвать боевым отрядом как президента, так и его вертикали. Как показала практика, голосуют коммунисты на любых выборах не за своего партийного кандидата, а за «президентского». Правда, ПКБ несколько отклонилась от «генерального курса», но не на уровне ее рядовых членов, устойчиво ненавидящих демократию, рыночную экономику и весь мир, расположенный за Бугом.


Фота IREX/ProMedia

У БНФ в нашем регионе положение весьма сложное. Рискну навлечь гнев своих друзей, но осмелюсь утверждать, что БНФ в области непопулярен. Хотя то, что многие вполне обоснованно называли русофобией, судя по заявлениям лидеров движения, оставлено в прошлом вместе с главным автором этой идеологии, в народной памяти укоренились стойкие ассоциации и подозрения. И это объективно. 60 процентов жителей региона имеют близких родственников в России. И политик, строящий свою избирательную платформу или просто заявляющий о происках проклятых «азиатов-москалей» как основном источнике наших бед на протяжении последнего тысячелетия, не имеет реальных перспектив быть понятым в Гомельской области. Недаром говорят, что оглушительную победу Лукашенко в нашей области не в последнюю очередь обеспечила политика тогдашнего лидера Фронта.

Даже в 500–тысячном областном центре обновленный Фронт представляют всего несколько десятков искренних энтузиастов, заслуживающих, конечно, уважения. Но в последние 2-3 года сколь-либо общественно значимых акций они не инициировали. Гомельская организация БНФ даже не участвовала как организованная сила в кампании наблюдения за так называемыми выборами осенью 2000 года. Правда, при этом часть рядовых членов не подчинилась, мягко говоря, непрофессиональным (с точки зрения реальной политики) указаниям своих минских лидеров и активно наблюдала за многочисленными безобразиями на гомельских избирательных участках.

«Яблоки» в Гомельской области бывают только на деревьях и в магазинах. Хотя 12 последних лет политика как «большая», так и «малая» — мой основной вид деятельности, я ни разу не видел ни одного живого жителя нашей области – члена одноименной партии. Впрочем, допускаю, что формально гомельские последователи фруктовой организации где-то в регионе все же существуют.

Социал-демократов, позволю себе предположить, в Гомеле и окрестностях также крайне мало. Практически нет. Формально существуют структуры трех партий, содержащих в самоназвании упоминание о социал-демократии. В каких-либо активных проявлениях, кроме устройства регулярных дискотек одной из них, они до сих пор замечены не были. Даже «партия Статкевича», гремящая в столице благодаря своему не слишком последовательному лидеру, кроме заведомо провального выхода ее членов на арену циркового представления «Выборы 2000», в нашем регионе ничем пока не прославилась.

«Соколы Гайдукевича» в Гомельской области по бумагам существуют почти во всех районах, но они живут какой-то странной политической жизнью. Ее внешняя сторона никак не проявляется. Трудно припомнить акцию, организованную этой партией в Гомеле и, тем более, в районах. Во время последних «выборов» вместо заявленных ЛДПБ двух-трех наблюдателей на каждом избирательном участке нашей области были замечены 2-3 наблюдателя всего.

ОГП благодаря тому, что в Гомеле ее представляют, пожалуй, самые известные в регионе политики, а также весьма опытные бюрократы, более популярна и активна. Но многие партийные акции осуществляют люди, формально в партии не состоящие. К тому же эти акции реализуются несколькими неполитическими общественными организациями, примыкающим к партии. То есть и в этом случае можно говорить не о влиянии партии, а о влиянии некой группы людей, объединенной общими интересами и приверженностью общей идее.

Есть в Гомеле, конечно, как «зависимые», так и «независимые» профсоюзы. Их политическое влияние на сегодняшний день я бы оценил как близкое к нулю. Первые выполнят «любой приказ» местных властей и, тем более, президента. Даже если им прикажут организовать массовое и активное голосование трудящихся против своего шефа, который, как я слышал, не исключает возможности своего участия в президентской гонке. Странное желание при подобной степени надежности соратников и подчиненных.

Независимые предпринимательские профсоюзы проявляют завидную организованность в отстаивании своих экономических интересов, но полностью инфантильны в политических процессах. Во время последних «выборов» они не смогли даже сформировать инициативную группу для выдвижения одного из своих лидеров. Нельзя исключить, что в будущем члены этого профсоюза вспомнят школьные учебники истории в части утверждения классиков о невозможности решения экономических проблем без выдвижения политических требований. Тогда о нем можно будет говорить как о серьезном факторе влияния на политическую жизнь региона.

Разумеется, в рамках небольшой газетной статьи невозможно представить объективную картину политического пейзажа Гомельского региона. Но для того, чтобы в будущих серьезных политических кампаниях не делать ошибок и не насиловать пока спокойно лежащие грабли, можно прислушаться и к этим весьма субъективным заметкам. Как и к другим, содержащим, возможно, противоположные по смыслу оценки ситуации. ■

# Аляксандр Лукашэнка зневажае нацыянальную інтэлігенцыю

**Марат ГАРАВЫ**

«Сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам зневажае нацыянальную інтэлігенцыю», — заявіў вядомы беларускі мастак Алесь Марачкін, каменціруючы па просьбе БелаПАН падзею, якая пачалася ў Мінску раніцай 1 лютага.

Нагадаем, што ў гэты дзень у Палацы Рэспублікі праходзіць сустрэча кіраўніка дзяржавы з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі. Яна праводзіцца ў межах Рэспубліканскай нарады работнікаў культуры і дзеячаў мастацтва. На сустрэчу запрошаны каля 500 дзеячаў літаратуры, мастацтва, навукі і чыноўнікаў рознага рангу.

Алесь Марачкін лічыць: пасля вядомага выказвання Лукашэнкі пра тое, што ў нас няма сваіх рэпіных і шаляпіных, сустрэча з ім «проста немагчымая, таму што яна зневажае творчую беларускую інтэлігенцыю і праводзіцца з мэтай падначаліць творчых людзей волі аднаго чалавека». Мастак таксама нагадаў навагодняе віншаванне прэзідэнта, у якім ён, спасылаючыся на словы вядомага французскага асветніка Шарля Мантэск'е, заявіў, што шчаслівы той народ, які жыве сумна і нецікава. «Аднак я не хачу так жыць і спадзяюся, што са мною пагодзяцца ўсе нармальныя грамадзяне краіны», — заявіў Алесь Марачкін. ■

БелаПАН

ТЭАТР

# Вялікі тэатр мусіць пераехаць

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

Новы міністр культуры Леанід Гуляка днямі пацвердзіў, што Тэатру оперы і балета давядзецца часова пераехаць выступаць з будынка на плошчы Парыжскай камуны, дзе мае быць праведзеная рэканструкцыя, на іншы адрас. Вельмі верагодна, што оперная і балетная трупы ўжо наступны тэатральны сезон пачнуць «у гасцях». Пярэбараў не пазбегнуць, хоць у Вялікім да гэтай думкі пакуль прывыкнуць не могуць. Тым больш што перасяленне, хай і часовае, можа прынесці беларускім опернаму і балетнаму мастацтвам нямала творчых стратаў – ад кадры ў новых будынках, давядзецца быць там, як кажуць, на птушыных правах. Гэта тэатры оперы і балета будуць, як гэта ёсць зараз, чаргаваць паміж сабой дні выступленняў. Як кажа Сяргей Картэс, квіткі ў Вялікі тэатр распрадаюцца за 2 месяцы, а тое, што ў Палацы Рэспублікі захочуць правесці ў дзень спектакля якое-небудзь важнае дзяржаўнае мерапрыемства, перспектыва наколькі вельмі непрыемная, настолькі і верагодная. Гледачам адмены спектакляў не дужа будуць падабацца. Ім і так давядзецца на пэўны час развітацца з некаторымі пастаноўкамі, пераладзіць якія з дапасаваннем да новай неопернай сцэны будзе надзвычай цяжка, а ў некаторых выпадках немажліва. Так што рэпертуар будзе скарочаны.



равых да рэпертуарных.

Мяркуецца, што рэканструкцыя будзе весціся паэтапна: спачатку сцэна і глядзельная зала, а потым іншыя памяшканні. Якраз на час вядзення першай часткі рамонтнабудаўнічых работ Вялікі тэатр і будзе выступаць у іншым будынку, хутчэй за ўсё ў залах Палаца Рэспублікі, не выключаны і варыянт Дома афіцэраў. Наконт таго, дзе могуць ладзіцца оперныя спектаклі, будзе даваць рады адмысловая камісія.

Напрыклад, у тэатра оперы самая значная апаска – стан акустыкі ў залах, дзе давядзецца на некалькі гадоў прытуліцца. Можа той жа Палац Рэспублікі зусім не падыдзе для гучання ў ім оперных партыяў, спяваць іх у мікрафон выглядае недарэчна і пошла. Дырэктар тэатра оперы Сяргей Картэс гаворыць і пра яшчэ адну праблему – выступаю…

Сяргей Картэс кажа, што зараз вельмі важна атрымаць гарантыі таго, што фінансаванне рэканструкцыі будзе ісці бесперашкодна, і яна не ператворыцца ў «даўгабуд». Наступствы доўгатэрміновай бяздомнасці оперы і балета могуць быць непрадказальнымі. Прыкладам, артысты – людзі дужа тонкія і прывыклыя да ўтульных умоваў, з прычыны неўладкаванасці іх можна проста згубіць.

Дырэктар беларускай оперы даводзіць, што сітуацыя ад адных толькі чаканняў пераезду ўжо «крытычная». А можна было б узвесці для Вялікага тэатра, пакуль бы той заставаўся працаваць на плошчы Парыжскай камуны, дзе-небудзь у Мінску новы шыкоўны будынак. Ёсць прыклады, як менавіта так яно рабілася ў свеце. ■

# Всякое ли чтение на пользу?

30 января в газете «Советская Белоруссия» была опубликована статья Ларисы Раковской «О пользе чтения». В этой статье, посвященной обсуждению законопроекта «Об информационной безопасности», автор обвиняет журналистов негосударственных СМИ и правоведов, которые «крутятся вокруг БАЖ» («Белорусская ассоциация журналистов»), в безграмотности и скоропалительности оценок. Лариса Раковская утверждает, что они «обсуждают и осуждают» законопроект, которого якобы нет: «Есть некое выступление минского чиновника на научной конференции в Санкт-Петербурге. Но разве можно беллетристику, пусть даже наукообразную, считать «законопроектом»?

Между тем Лариса Раковская прекрасно осведомлена о том, что «минским чиновником», выступавшим в Санкт-Петербурге, был ответственный работник Секретариата Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь А.С.Новик (напомним, что именно Совет Республики стал инициатором разработки закона «Об информационной безопасности»). И «наукообразная беллетристика» представлялась на конференции именно как законопроект Республики Беларусь «Об информационной безопасности». Под этой же «шапкой» документ был опубликован в брошюре «Концептуальные проблемы информационной безопасности в Союзе России и Беларуси: материалы научной конференции», изданной в Санкт-Петербурге в 2000 г.

Руководство общественного объединения «Белорусская ассоциация журналистов» неоднократно пыталось получить текст законопроекта «Об информационной безопасности» в Совете Республики и других государственных органах. Однако вплоть до пресс-конференции Н.Чергинца это не удавалось. Ждать, пока «законопроект официально поступит в Палату представителей и будет рассмотрен в соответствии с правилом и регламентом», мы не могли: тогда «говорить серьезно» об этом документе было бы поздно.

Заметим, что во всех выступлениях представителей БАЖ указывалось, какой конкретно законопроект оценивается и откуда он взят. Поэтому утверждение Ларисы Раковской, что руководство БАЖ, «не глядя в святцы, бухнуло в колокола», мягко говоря, не уместно. Обвиняя журналистов и БАЖ в том, что они будто бы не поинтересовались происхождением критикуемого проекта, сама Раковская обратиться в Белорусскую ассоциацию журналистов за уточнением информации не удосужилась.

И еще. Автор статьи «О пользе чтения» обошла вниманием самый главный вопрос, из-за которого, собственно, и начался «шум»: зачем вообще понадобился закон «Об информационной безопасности». Сегодня в Беларуси действуют законы «О печати и других средствах массовой информации», «Об информатизации», множество нормативных актов о защите государственных и иных секретов, положение о лицензировании деятельности по распространению правовой информации и др. Принятие в нынешних условиях еще одного правового акта, усиливающего государственный контроль за информационными потоками, неизбежно приведет к дальнейшему ограничению свободы слова и средств массовой информации. ■

**Правление общественного объединения «Белорусская ассоциация журналистов»**

# «Віртуозы сцэны» апынуліся на вуліцы

**Маша ПЯТРОВА**

Увечары 30 студзеня артысты папулярнага ў Беларусі і за яе межамі тэатральнага праекта «Віртуозы сцэны» сыгралі на сцэне сталічнага клуба імя Дзяржынскага свой апошні спектакль — «Французская тайна амерыканскага палкоўніка». Як паведаміў пасля заканчэння спектакля прадзюсер праекта «Віртуозы сцэны» Уладзімір Ушакоў, адміністрацыя клуба без ніякіх тлумачэнняў адмовіла ім у далейшай арэндзе памяшкання. Паводле ягоных словаў, папярэджанні пра тое, што дагавор аб арэндзе не будзе працягнуты, «Віртуозы сцэны» чулі на працягу апошніх паўтара года — з тых часоў, як з'явіўся праект «Альфа Радыё», які таксама арандаваў памяшканне клуба. Пры гэтым «Альфа Радыё» забірала патрэбныя ім дні месяца, а «Віртуозы сцэны» мелі тое, што заставалася.

Уладзімір Ушакоў зазначыў, што гэтая сітуацыя — сур'ёзная праблема для іхнага адзінага ў краіне антрэпрызнага тэатра з вялікім рэпертуарам — 8 спектакляў. Застацца ў разгар тэатральнага сезона без сцэны — трагедыя для калектыву, які жыве актыўным творчым жыццём.

Пакуль шматлікія звароты «Віртуозаў сцэны» ў розныя чыноўныя ўстановы добрых вынікаў не далі. ■

БелаПАН

